# ВЕСЬНІК

Беларускага Каталіцкага Душпастырства

Но. 4(9) Лёндан Каляды 1989

## Бэтлеемская зорка

"І зорка, прыйшоўшы, стала над месцам, дзе было Дзіцятка" (Мц. 2:9)

Некалі мне прыйшлося ехаць аўтобусам у адным правінцыяльным ангельскім горадзе. Побач мяне сядзела пара пажылых ангельцаў. Пакуль аўтобус стаяў на станцыі, раптам пачуўся голас званоў з царквы, што была недалёка. Пачуўшы звон, мужчына павярнуўся да мяне і сказаў: "Звон званоў царкоўных – няшчасьце будзе". Пасьля такога цікавага ўступу ў нас пачалася ажыўленая гутарка, падчас якое я стараўся даказаць, што наадварот, звон царкоўны – знак шчасьлівы, бо ён напамімае мне аб Богу, калі б я меў няшчасьце забыцца аб Ім. Ня ведаю ці ўдалося мне пераканаць майго субяседніка, жонка якога ўсё штутрхала яго ў бок і прасіла замоўкнуць...

Здарэньне мела месца амаль трыццаць гадоў таму назад, але яно ўрэзалася ў маю памяць, магчыма таму, што яно напамінае вядомыя радкі з паэмы Якуба Коласа "Сымон Музыка" аб званіцах, якія "перад сьвятам у касьцёл, царкву завуць, каб прад Богам і прад братам віны ўсе свае пачуць". Магчыма таксама таму, што яно зьяўляецца прыкладам таго, як штодзённыя, нязначныя ў сабе, здарэньні у розны спосаб успрыймаюцца людзьмі: адны астаюцца абыякавымі да іх, для іншых яны набіраюць асаблівага значэньня. Часам нават праз іх сам Бог гаворыць да нас..

Сярод зьяваў, якія суправаджалі нараджэньне Госпада Ісуса Хрыста, магчыма адной з найбольш загадкавых была зорка, якая прывяла мудрацоў да Бэтлеему. Новыя зоркі на нябесным скляпеньні не зьяўляецца незвычайным, хоць і не штодзённым, зьявішчам. Яны былі вядомыя людзям ад найдаўнейшых часоў і сёньня астраномы ведаюць дакладны час паяўленьня. многіх з іх. Такой адной зоркай відаць была тая, што зьявілася ў час нараджэньня Хрыста. Большасьць людзей напэўна аднеслася да яе абыякава, магчыма нават і

не заўвыжыла яе; сярод іншых яна магла выклікаць забабонны страх. Але для некаторых яе зьяўленьне мела асаблівае значэньне.

Сярод найважнейшых рысаў сапраўднай мудрасьці ёсьць не вучонасьць (хоць яна ў сабе вельмі карысная), але жаданьне пазнаньня праўды, і сьціпласьць духа, дзякуючы якой мы прымаем праўду, нават калі нам прыходзіцца адрачыся ад нашых папярэдніх уяўленьняў і пераканаьняў. Такімі былі тыя старажытныя мудрацы, якія, шукаючы Караля Юдэйскага, не ўсумніліся, калі зорка, прывяла іх да Дзіцяці, што знаходзілася ў далёка не каралеўскіх харомах. Такім чынам у канцы іхняй доўгай і нялёгкай дарогі, яны аказаліся аднымі з першых, якім было дадзена аддаць пашану Таму, хто пасьля сказаў аб сабе: "Я -Дарога і Праўда, і Жыцьцё". Іхняе паступаньне было ў супрацьлежнасьці з паступаньнем правадыроў народу, сярод якога прыйшоў на сьвет Хрыстос: палітычныя кіраўнікі спалохаліся, убачыўшы ў Ім пагрозу свайму становішчу; духоўныя ж правадыры адкінулі Яго, бо Ён не ўкладаўся ў рамкі іхняга ўяўленьня аб Збавіцелю, якога яны чакалі. "Ён Прыйшоў да сваіх, і свае Яго ня прынялі"(Ян 1:11)

Яшчэ адна важная падрабязнасьць. Мудрацы, ведзеныя зоркаю, не належалі да гэбрэйскага народу. Такім чынам у іхніх асобах увесь род людзкі пакланіўся Нованароджанаму Хрысту, паказваючы унівэрсальны характар Ягонай місіі, сутнасьць якой была, што "Тым, якія прынялі Яго, якія ўверылі ў імя Яго, даў моц дзецьмі Божымі звацца"(Ян 1:12). Быць дзецьмі Божымі азначае мець удзел у Боскім жыцьці, быць дзякуючы ласцы тым, чым Хрыстос зьяўляецца па сваёй прыродзе.

Прыйсьце на сьвет Хрыста не было звычайным нараджэньнем маленькага Дзіцяці, якое ня мела ніякага дачыненьня да свайго нараджньня. Наадварот гэта быў сьвядомы акт Бога, багаты вынікамі незвычайнай важнасьці для ўсяго сьвету. Можна сказаць, што гэта было падарожжа Бога на зямлю ў пошуках людзкіх сэрцаў. Было б аднак памылковым думаць, што Ягонае прыйсьце было імгненным лякарствам на ўсе людзкія недамаганьні і беды. Хрыстос прыйшоў, каб падзяліць з намі нашы сум і радасьці, няўдачы і посьпехі. Дарога да ўсынаўленьня Божага ня лёгкая: "Хто хочаісьці за мною, хай адрачэцца сябе, возьме свой крыж і ідзе ўсьлед за мною"(Мк. 8:34).

У беларускага паэты Янкі Быліны (сьвятар Ян Семашкевіч, 1883-1955) ёсьць прыгожы верш "Зорка сьвятая", які пачынаецца такім чынам:

Праўда – цябе ня знаў я на сьвеце.
Праўда – цябе ня бачыла вока –
А я твой воблік насіў у сакрэце
Ў сэрцы глыбока.
Мне ты была дана, дарагая,
Зорка сьвятая.

**У Бэтлееме сустрэліся Боскі і людзкія падарожнікі ў пошуках адзін другога. Сёньня падарожнікамі зьяўляемся ўсе мы, і кожны з нас мае сваю пуцяводную зорку. Астаецца толькі пажадаць, каб хапіла ў нас мудрасьці пазнаць яе, і сьціпласьці, кабісьці ўсьлед за ёю аж да самага нябеснага Бэтлеему – нашай апошняй мэты.**

**а. Аляксандар Надсон**

**Каляды 1989 г.**

## АБ КАРАЛЕЎСКАЙ ВОПРАТЦЫ І ІНШЫХ РЭЧАХ (Навагоднія думкі)

Многія з нас чулі казку Андэрсэна пра караля, які хацеў пахваліцца сваёй новай вопраткай. Усе прысутныя – хто са страху, а хто шукаючы ласкі, – выказвалі голасна сваё захапленьне Раптам пачуўся голас дзіцяці: "Але ж кароль голы!" І адразу атмасфэра страху і падхалімства разьвеялася, і кароль, перад якім яшчэ хвіліну раней усе дрыжалі, стаўся прадметам агульнага пасьмешышча.

1989 год астанецца ў памяці, як год, калі рухнула Бэрлінская сьцяна., якая была сымбалем "жалезнай заслоны" што дзяліла чалавецтва ма два супрацьлеглыя сьветы. Па адзін бок заслоны быў сьвет са сваім дэмакратычным ладам з яго недасканаласьцямі, слабасьцямі і магчымасьцямі да злоўжываньняў, але таксама з глыбока ўкаранёнай традыцыяй індывідуальнай свабоды і пашаны людзкой годнасьці. Па другі бок быў сьвет камуністычны, заснаваны на ідэалёгіі, якая манілася мець адказы на ўсе пытаньні, якія хвалявалі чалавецтва, уключна з устанаўленьнем канчатковага палітычнага і грамадзкага ладу на сьвеце. Прадстаўнікі гэтай ідэалёгіі, перакананыя ў сваёй слушнасьці, ня мелі ні часу ні цярплівасьці у адносінах да тых,

што асьмеліваліся думаць інакш за іх: у лепшым выпадку іншадумцы павінны былі быць ненармальнымі, для якіх месца у доме для псіхічна хворых; у горшым – гэта ворагі і шкоднікі, якія жадаюць стрымаць непазьбежны ход гісторыі...

У сапараўднасьці "жалезная заслона" была "заслонай маны", якая трымалася на брутальнай фізычнай сіле. Як толькі не хапіла сілы, уся сыстэма пахіснулася і пачала развальвацца, стаўшы, як той кароль з казкі, голай перад вачамі ўсяго сьвету. Нельга сказаць, каб відовішча было вельмі прывабнае – эканамічнае банкроцтва, экалягічны крызіс, маральны расклад, духоўная беднасьць, інтэлектуальнае жабрацтва...

Падзеі 1989 году адчынілі вочы шмат каму на сапраўдны твар камунізму. Сёньня ўжо сярод тых, што думаюць цьвяроза, наўрад ці знойдзецца нехта, хто б лічыў павжна камуністучную ідалёгію сусьветнай сілай. Гэта ня значыць, што камунізм ня можа яшчэ пратрымацца даволі доўга, асабліва там дзе ягоны бюракратычны апарат пасьпеў запусьціць глыбокія карэньні і дзе адсутнічаюць уласныя дэмакратычныя традыцыі. Яшчэ даўжэй за сам камунізм будуць трываць ягоныя вынікі.

Адной з краін, дзе спадчына камунізму будзе адчувацца асабліва доўга і балюча, зьяўляецца Беларусь.

Разьмер артыкулу змушае абмежавацца да пераліку толькі самых важных праблем, якія стаяць перад беларускім народам. Пачаць трэба ад аснаўнога – ад зямлі, на якой жывуць людзі, і паветра. якім яны дыхаюць. Эканамічнае разьвіцьцё і зьвязаная з ім індустрыялізацыя праводзіліся згодна з плянам накінутым згары, без увагі на магчымасьці і патрэбы самой Беларусі. У выніку Беларусь перажывае сёньня небывалы экалягічны крызіс: зьнішчэньне прыродных рэсурсаў, атручэньне паветра і рэк, эрозія зямлі, разбурэньне ўнікальных экалягічных камплексаў. Многія разбуральныя працэсы пайшлі так далёка, што сталіся беспаваротнымі.

Праблема аздараўленьня і ратаваньня асяродзьдзя прадстаўляе вялікія цяжкасьці і вымагае вялізарных рэсурсаў і высілкаў; яна непамерна ўскладнілася з прычыны вялікага гора, якое напаткала Беларусь амаль чатыры гады таму назад. Імя гэтаму гору – Чарнобыль. Сёньня нарэшце "заслона маўчаньня" (дзіўна, як усякія "заслоны" спадарожнічаюць камунізму!) вакол Чарнобыльскай аварыі, ўпала, і аб ёй пачалі шмат гаварыць і пісаць. Нядаўна Алесь Адамовіч параўнаў яе вынікі да выбуху дзесяці атомных бомбаў, сем з якіх узарваліся на Беларусі. Толькі сьвет гэтага не заўважыў... Чарнобыльская трагедыя закранула ўвесь беларускі народ і зьяўляецца нацыянальнай трагедыяй. Сёньня ніхто ня можа з упэўне-

насьцю прадбачыць час трываньня і разьмер ейных вынікаў, і ўплыў на будучыню беларускага народу.

Летам 1988 г. Курапаты адкрылі свой крывавы сакрэт. Уся Беларусь – і ня толькі яна, – з жахам і болем глядзела на косьці тысяч нявінных ахвяраў, і пыталася, ці гэта мела быць тая "шчасьлівая" будучыня", якая чакала іх. усіх. Колькі падобных Курапатаў на тэрыторыі Беларусі і ўсяго Савецкага Саюзу, і які дакладны лік ахвяраў, магчыма ніколі ня будзе вядомым.

Страты нанесеныя апошняй вайною і нямецкай акупацыяй яшчэ больш аслабілі і так ужо зьнясілены арганізм беларускага народу.

Пасьля вайны пачалася новая крыжовая дарога. Зьнясілены і абяскрываўлены беларускі народ гналі на духоўную сьмерць, адбіраючы яму мову, культуру, гістарычную памяць і нацыянальную і людзкую годнасьць ў імя будовы "камуністычнага грамадзтва", у якім быццам мела адбыцца "зьліцьцё нацыяў, моў і культур". І ўсё гэта рабілася пад гукі крыклівай прапаганды аб "небывалым духоўным росквіце". Балюча глядзець, як некаторыя адзінкі са скалечанай душой, саромеючыся ўсяго роднага, ганарацца накінутым ім чужым, не заўважваючы свайго духоўнага жабрацтва.

У асноўным аднак беларускі народ паказаў вялікую духоўную сілу і не заламаўся У найцяжэйшыя для іх хвіліны беларусы схавалі ўсё дарагое глыбока ў сэрцы. І толькі час-ад-часу, як яшчэ ў нядаўна забароненай паэме Янкі Купалы "На Куцьцю", "іх вусны бледныя шапталі: Аддайце славу нашу нам! Нашто скавалі – расхваталі?" Сёньня гэты шэпт ўсё мацнее і ператвараецца ў магутны голас, які дамагаецца звароту "славы" (г.зн. гісторыі), роднай мовы, духоўных скарбаў, людзкой і нацыянальнай годнасьці, права "людзьмі звацца".

Такім чынам пачынаем у апошняе дзесяцігодзьдзе дваццатага стагодзьдзя з сумесьсю надзеі і трывогі. Трывогу выклікае веліч заданьняў, і перашкод, якія стаяць перад беларускім народам. Калі аднак судзіць па першых кроках нацыянальнага адраджэньня, па клопаце аб стане беларускай мовы, культуры асяродзьдзя і т.д., асабліва сярод моладзі, што была ўзгадаваная ў духу чужым усяму беларускаму, дык ёсьць надзея, што цяжкасьці будуць пераадоленыя.

У аснове камуністычнай ідэалёгіі ляжаць прынцыпы пяршынства рэчыўнага над духоўным, аўтаноміі чалавека, і клясавасьці маралі. (г.зн. адмаўленьня існаваньня ўсеагульных правілаў паступаньня). Палітычны і грамадзкі лад, заснаваны на такіх прынцыпах, падобны да дому збудаванага без фундамантаў на пяску.

Сёньня існуе цэлае пакаленьне людзей, якія, расчараваўшыся, ў камуністычнай ідэалёгіі, у якой яны былі ўзгадаваныя, адкінулі яе. Што запоўніць створаную ў іхніх душах пустку, на якім духоўным фундаманце будуць яны будаваць сваю асабістую і нацыянальную будучыню? Пытаньне паважнае і цяжкае.

Амаль дзьве тысячы гадоў таму назад Нехта сказаў: "Прыйдзіце да мяне, ўсе стомленыя і непамерна абцяжаныя, і я ўмацую вас. Вазьміце маё ярмо і вучыцеся ад мяне, бо Я лагодны і пакорны сэрцам, і знойдзеце супакой для душ вашых Бо ярмо маё салодкае і ноша мая лёгкая".(Мц. 11:28-30). Ягонае імя было Ісус Хрыстос. і Ён казаў аб сабе, што Ён – Сын Божы. Маючы поўню жыцьця, Ён не шукаў нічога для сябе, але ўшанаваў чалавека, стаўшыся адным з нас. і дзелячы з намі сум і радасьць, шчасьце і гора. Наканец Ён памёр за нас, паказаўшы на справе, што "няма большай любові, за тую, калі нехта аддасьць жыцьцё за прыяцеляў"(Ян 15:13).

Хрысьціянства не зьяўляецца гатовай формулай для справядлівага грамадзкага і палітычнага ладу, але яно дае нам прынцыпы, на якіх гэты лад павінен апірацца: прынцыпы любові, пашаны адзін другога, адмаўленьня ад ўжываньня сілы пры вырашэньні спрэчных пытаньняў. Больш важна, яно нам таксама гаворыць, што мы ўсе зьяўляемся дзецьмі адной сям'і, маючы ў небе супольнага Айца Нябеснага – Бога, да ўдзелу ў жыцьці якога мы ўсе пакліканы цераз нашага брата, Госпада Ісуса Хрыста. Вось фундамант, на якім будаваць асабістую і грамадзкую, – дачасную і вечную, – будучыню.

Палітыкі і "сільныя гэтага сьвету" будуць казаць, што трэба быць "рэалістамі", што хрысьціянства немагчымае да ажыцяўленьня ў грамадзкім (і асабістым...) жыцьці. Спрачацца з імі няма карысьці. Можна толькі заўважыць што чалавецтва на працягу сваёй доўгай гісторыі мела досыць нагодаў пакаштаваць вынікі іхняга "рэалізму"... Дык можа ня шкодзіла б даць шанцу Богу, які "выбраў дурное ў вачах сьвету, каб пасароміць мудрых, і слабое, каб упакорыць сільных"(1 Кар. 1:27).?

Хай добры Бог дасьць нам у новым годзе разуменьне таго, што ад нас чакаецца, і сілу, каб магчы яго выканаць.

а. Аляксандар Надсон

## НАШЫ ЮБІЛЕІ

1990 год у Беларусі будзе годам Францішка Скарыны, калі наш народ будзе ўрачыста адзначаць 500 з дня нарахэньня беларускага першадрукара. Факт, што дакладная дата нарадхэньня Скарыны астаецца няведамай, не памяншае важнасьці гэтай падзеі.

Францішак Скарына зьяўляецца гордасьцю беларускага народу. Сёньня, калі прыходзіцца змагацца за аднаўленьне беларускай культуры і адрадхэньне мовы, ягоная асоба набірае асаблівага значэньня. Сучасьнік такіх волатаў духа як Эразм Ратэрдамскі і сьвяты Тамаш Мор, ён у нічым не ўступаў ім. Гэта яму не перашкаджала любіць сваю бацькаўшчыну і ганарыцца прыналежасьцю да народу, для якога ён прынёс у дары выдадзенаў ўпершыню друкам Божае Слова ў перакладзе на родную мову. Мастацкая форма ягоных выданьняў да сёньняшняга дня выклікае агульны подзіў і захапленьне. Ён узяўся за гэтую вялікую працу, як сам каха, "найперш у гонар і на хвалу Богу ў Тройцы адзінаму і найчыстай Яго Маці Марыі, усім нябесным сілам і сьвятым Божым, а таксама для карысьці і агульнага дабра, асабліва з тае прычыны, што міласэрны Бог пусьціў мяне на сьвет спасярод гэтага народу".

Асоба і дзейнасьць Скарыны ўжо даўно атрымалі належнае прызнаньне ў навуковым і культурным сьвеце. Ня меў ён толькі прызнаньня праз доўгі час з боку Царквы., магчыма таму, што для пераважнай большасьці яе прадстаўнікоў ў Беларусі ўсё беларускае было чужым. Толькі ў дваццатым стагодзьдзі зьявіліся беларускія каталіцкія сьвятары-патрыёты, якія загаварылі аб Скарыне. Першым з іх быў кс. Адам Станкевіч са сваёй кніжкай "Францішак Скарына - першы друкар беларускі" (Вільня 1925). У 1926 г., дзякуючы пачынаньням таго ж кс. Станкевіча паўстае ў Вільні беларуская друкарня, якой была дадзена імя Францішка Скарыны і якая адыграла вялікую ролю ў пашырэньні беларускага друкаванага слова ў Заходняй Беларусі, што была пад польскай акупацыяй. У гэтым самым 1926 годзе выйшаў у Вільні малітаўнік "Голас душы" аўтарам якога быў кс. Кастусь Стэповіч. (паэта Казімер Сваяк), а рэдактарам Адам Станкевіч, які у сваёй прадмове навязаў выхад малітаўніка да Скарынінскіх традыцыяў. Сам Кастусь Стэповіч напісаў у гонар Скарыны верш, які перадрукоўваем ніжэй.

Між іншым у гэтым годзе спаўняецца 100 гадоў з дня нарадхэньня Кастуся Стэповіча (19.2.1890 - 6.5.1926) і ягонага прыяцеля, таксама сьвятара і паэты, а. Язэпа Гэрмановіча (Вінцука Адважнага, 4.3.1890-26.12. 1978). Гэта былі людзі сьветлай душы і вялікага сэрца,

жыцьцё якіх зьяўляеца прыкладам самаадданай службы на славу Божую сярод свайго народу. Яны заслужылі на ўдзячную памяць нашчадкаў.

Скарынаўскі юбілей зьяўляецца вялікім сьвятам беларускай культуры. Хочацца спадзявацца, што Каталіцкая Царква ў Беларусі, якая мае сёньня свайго біскупа, ушануе беларускі народ і ягонага слаўнага сына, узяўшы удзел у гэтым сьвяце.

## ПАМЯЦІ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ
### Слаўнага доктара з Полацку

**У Чэскай Празе друкаваў**
**прадвечнай Веды кнігу наш**
**Скарына. І тайніцу падаў Пісьма**
**Сьвятога Простаму Народу.**
**Бацькаўшчыны мілай**
**Настаўнікам ён быў;**
**Так ведаў як пачаць яе**
**ўзгадаваньне.**
Вось Біблію ўсеньку пераклаў ён
мовай мілагучнай:
Няхай сярмяжны брат
чытае, што казаў
прадвечнымі славамі
Сам з неба Бог.
Не "Кнігу Сьмерці" Бог пісаў,
а – "Кнігу Мудрасьці й Жыцьця" –
Жыў той народ, што прачытаў яе
захопленай душой.
Скарыну Бог паслаў,
**каб жыва пераклаў**
**і стравай падаў**
**замучанай душы Народу**
**Сьвятога Духа Радасьць.**
**Ён споўніў дзела.**
**І славай загрымела Яго Іменьне**
**міх вучаных і простых. –**
**Вось лет чатырыста**
**як кнігі Скарыны**
пабачылі сусьвет. Прайшлі як
сонца
міх вякоў, сагрэўшы душы.
Цяпер ...
Пашлі нам дактароў,
О Божа, слаўных:
хто б Кнігу нам Жыцьця
аддаў
душам – зьняможаным ад
чаканьня!

Казімер Сваяк,
(Крыніца, Но.12, Вільня, 25.3.1925)

---

Выдае Апостальскі Візытатар для Беларусаў Каталікоў за межамі Беларусі. Адрас:

**Apostolic Visitor for Byelorussians**
**Marian House,**
**Holden Avenue, London N12 8HY**
**England.**